№169 (1982)
Пятніца , 10 верасня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля»
Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +12...+14, уначы — +9...+11, на працягу сутак — без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +14...+16, уначы — +7...+9, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — +15...+17, уначы — +8...+10, на працягу сутак — без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +11...+13, уначы — +8...+10, на працягу сутак — без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +11...+13, сонечна, уначы — +3...+5, на працягу сутак — без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +11...+13, сонечна, уначы — +6...+8, на працягу сутак — без ападкаў.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

*Туне ЦІНГСГАРД:*

## «Я супраць правядзення такога рэферэндуму»

*"Мяне не здзіўляе рашэнне прэзідэнта Лукашэнкі правесці рэферэндум па пытанні яго ўдзелу ў прэзідэнцкіх выбарах у 2006 годзе"*, — сказала ў інтэрв'ю Радыё Свабода віцэ-прэзідэнт Парламенцкай асамблеі АБСЕ Туне Цінгсгард (Швецыя).

8 верасня яна была прызначана каардынатарам працы доўгатэрміновых назіральнікаў за парламенцкімі выбарамі ў Беларусі ад Бюро па дыпламатычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) АБСЕ.

*"Я, насамрэч, супраць правядзення такога рэферэндуму. Я думаю, што ўсё было падрыхтавана ў вельмі кароткі тэрмін"*, — заявіла Т.Цінгсгард. *Многія палітычныя партыі Швецыі рэалізуюць розныя праекты з палітычнымі партыямі Беларусі менавіта таму, што хацелі б дапамагчы Беларусі рухацца ў больш дэмакратычным кірунку".*

**Марына РАХЛЕЙ.**

## Жорсткі прысуд

Кіраўнік Офіса АБСЕ ў Мінску Эберхард Хайкен лічыць занадта суровым вырак, вынесены судом Ленінскага раёна Гродна лідэру незарэгістраванага рэспубліканскага страйкама прадпрымальнікаў Валерыю Леванеўскаму і ягонаму намесніку Аляксандру Васільеву.

"Вынік гэтага судовага працэсу — чарговы прыклад таго, якім неапраўдана жорсткім можа быць прысуд у параўнанні з учынкам", — гаворыцца ў заяве Э.Хайкена.

Нагадаем, што 7 верасня суд прысудзіў В.Леванеўскага і А.Васільева да двух гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі агульнага рэжыму.

В.Леванеўскі быў узяты пад варту ў Гродне па абвінавачанні ў распаўсюджванні ўлётак, якія запрашалі прыйсці на мітынг, арганізаваны страйкамам. Знявага прэзідэнта, на думку праваахоўных органаў, утрымліваецца ў надрукаваным ва ўлётках вершы "Рахунак за камунальныя паслугі або Жыроўка". А.Васільеў, акрамя таго, абвінавачваўся ў арганізацыі і актыўным удзеле ў групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак.

**Марына РАХЛЕЙ.**

*Сяргей БАЛЫКІН:*

## «За 10—15 гадоў чалавек элементарна стамляецца кіраваць краінай...»

Правядзенне рэферэндуму па пытанні зняцця абмежаванняў на колькасць прэзідэнцкіх тэрмінаў для адной асобы ліквідуе апошнюю дэмакратычную гарантыю, што ўтрымліваецца ў беларускай Канстытуцыі. Такі пункт гледжання ў гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН выказаў старшыня выканкама РГА "Альтэрнатыва-XXI" Сяргей Балыкін.

Паводле яго слоў, "за час прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі ў Канстытуцыю былі ўнесены змяненні, у выніку якіх органы прадстаўнічай улады, напрыклад, парламент, органы судовай улады фактычна страцілі сваё значэнне, і ўсе рэальныя рычагі кіравання краінай былі сканцэнтраваны ў руках прэзідэнта. Апошняй гарантыяй ад усталявання пажыццёвай улады было абмежаванне на колькасць тэрмінаў, якія пасаду прэзідэнта можа займаць адзін чалавек. Цяпер яе, хутчэй за ўсё, удасца ліквідаваць. Сама пастаноўка пытання сведчыць аб палітычных амбіцыях Лукашэнкі.

Да прыкладу, першы прэзідэнт ЗША Джордж Вашынгтон, які карыстаўся ў свой час яшчэ большай народнай падтрымкай, добраахвотна адмовіўся балатавацца на трэці тэрмін, нягледзячы на тое, што такога кшталту абмежаванні не ўтрымліваліся ў канстытуцыі. На яго думку, сам факт абрання трэці раз сведчыў бы аб усталяванні рэжыму асабістай улады. Практычна ўсе амерыканскія прэзідэнты выконвалі гэтую традыцыю. Выключэнне складаў прэзідэнт Рузвельт, ды і то гэта тлумачылася крызісам, звязаным з Другой сусветнай вайной. У будучыні гэтая традыцыя была замацавана заканадаўча.

Такога кшталту абмежаванні апраўданы не толькі з палітычнага пункту гледжання, але і з пункту гледжання чыста чалавечай фізіялогіі. Кіраўніцтва краінай патрабуе велізарнага фізічнага, інтэлектуальнага і эмацыянальнага напружання. Таму, як паказвае практыка, больш за 10—15 гадоў ажыццяўляць эфектыўнае кіраванне краінай не магчыма — чалавек элементарна стамляецца...

На жаль, Лукашэнка, відаць, не гатовы расстацца з уладай і зробіць усё для таго, каб захаваць сваю пасаду пажыццёва".

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Вандалізм!

Таварыства беларускай мовы ўстанавіла акт вандалізму ў дачыненні да надмагільнага помніка вялікаму беларускаму песняру Якубу Коласу на Вайсковых могілках у горадзе Мінску. На помніку выразна бачны надпісы чорнага колеру.

Таварыства беларускай мовы накіравала адпаведныя лісты генеральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь В.У.Шэйману і старшыні Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта М.Я.Паўлаву.

Мы спадзяёмся, што нашы звароты паспрыяюць прыняццю належных мер па ахове Вайсковых могілак.

**БЛІЦ-АПЫТАННЕ**

# Ці мае права грамадзянін Аляксандр Лукашэнка ўдзельнічаць у будучых прэзідэнцкіх выбарах?

***Валянцін АКУДОВІЧ, філосаф:***

— Я не правазнаўца, таму, зыходзячы з юрыдычных аспектаў, магу быць недакладным. Але як чалавек са сваім пунктам гледжання рызыкну зрабіць невялічкі аналіз. Фармальна беларуская супольнасць мае права выбраць любую форму ўлады — дэмакратыю, дыктатуру, аўтарытарызм... Беларусы пры жаданні могуць выбраць Аляксандра Рыгоравіча хоць пажыццёва. І нельга, у прынцыпе, сказаць, што гэта будзе няправільна. Няправільна адмовіць беларусам у іх праве вызначаць лёс краіны.

Лукашэнка зараз пытаецца ў народа дазволу ўдзельнічаць у прэзідэнцкай гонцы. Права пытацца і права ўдзельнічаць — дзве зусім розныя рэчы. І калі народ папросіць, Лукашэнка зможа вылучаць сваю кандыдатуру, і з пункту гледжання фармальнай логікі прыдрацца няма да чаго. Не ведаю, як па Канстытуцыі, але па сутнасці ўлады гэта так. Іншая справа, ці сапраўды народ "дасць" згоду...

А наогул ва ўсім цывілізаваным свеце не прынята так сябе пазіцыяніраваць і сядзець ва ўладзе столькі тэрмінаў. Няхай нават і пад светлымі лозунгамі і намерамі. Але гэта ўжо іншыя, маральныя катэгорыі.

***Цімафей ДРАНЧУК, малады палітык:***

— Па Канстытуцыі, канешне, не мае права. Але мы, прыхільнікі Андрэя Клімава, які, як вядома, збіраецца балатавацца ў 2006 годзе ў прэзідэнты, абсалютна не супраць удзелу Лукашэнкі ў выбарчай кампаніі. За дзесяць гадоў свайго праўлення ён ужо яскрава паказаў, які ёсць на самай справе, і нас такі канкурэнт цалкам задавальняе. У 2006 годзе Лукашэнка застанецца прэзідэнтам адзінай структуры — Нацыянальнага алімпійскага камітэта.

***Яраслаў РАМАНЧУК, эканаміст, кіраўнік навукова-даследчага цэнтра Мізеса:***

— Не. Канстытуцыя, што дзейнічае сёння, такога права яму не дае, кожны грамадзянін можа займаць пасаду прэзідэнта толькі два тэрміны. І такое пытанне, на мой погляд, яўна не можа выносіцца на рэферэндум. Любы чалавек, займаючы адказную пасаду дванаццаць гадоў, выдыхаецца псіхалагічна, інтэлектуальна. Таму яго далейшае знаходжанне на пасадзе стварае больш праблем, пагроз для краіны і самога чалавека, чым прыносіць карысці.

***Генадзь ФЯДЫНІЧ, прафсаюзны дзеяч:***

— Лічу, што грамадзянін Лукашэнка не мае ні законнага, ні маральнага права ўдзельнічаць у будучых прэзідэнцкіх выбарах.

***Анатоль ЯРМОЛЕНКА, мастацкі кіраўнік ансамбля «Сябры»:***

— Я так разумею, што Аляксандр Лукашэнка просіць дазволу ўдзельнічаць на роўных умовах з іншымі кандыдатамі. Калі народ дазволіць, то няхай спрабуе.

***Віктар СІВОХІН, намеснік старшыні Беларускага саюза ветэранаў вайны ў Афганістане:***

— Безумоўна, але ж вы ведаеце, для таго каб ён удзельнічаў у будучых прэзідэнцкіх выбарах, неабходна правесці рэферэндум і даведацца пра волю народа. Калі народ скажа "так", то ўсё будзе законна, легітымна і правільна.

***Ала ПАНІЧКІНА, касметолаг міжнароднага класа:***

— Увогуле я палітыкай не цікаўлюся, мне ўсё роўна...

***Алег ХАМЕНКА, дырэктар, саліст гурта «Палац»:***

— О, Божа... Канешне, не я павінен каментаваць усё гэта. Справа ў тым, што маё меркаванне — гэта маё меркаванне. Я не думаю, што менавіта музыканты павінны абмяркоўваць гэтае пытанне. У нас столькі палітыкаў было і ёсць, якія павінны сказаць, што яны думаюць на гэты конт. А на меркаванні палітыкаў павінны арыентавацца ўсе астатнія людзі.

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ, Віталь ГАРБУЗАЎ.**

# Решение о референдуме — это еще не выборы

**Сергей КАРАГАНОВ, председатель президиума Совета по внешней оборонной политике России**



Решение Лукашенко объявить референдум об избрании себя на третий срок огорчило друзей Беларуси и людей, уважительно относившихся к законно избранному президенту Беларуси. У него были и остаются еще возможности или уйти достойно, или остаться у власти и влиять на политику своего государства, но достойными методами.

Мало кто сомневается, что в условиях нынешней Беларуси Лукашенко сможет выиграть референдум. Но никто не сомневается, что международное сообщество, значительная часть белорусского общества и народа не примут результаты этого референдума. Если Лукашенко выиграет референдум и пойдет на выборы, их придется еще выигрывать. А в условиях, когда у него не будет групп поддержки ни в одной из зарубежных стран, Беларусь будет скользить в еще большую изоляцию. Более того, выигрыш выборов для Лукашенко может обернуться трагедией для него самого. Он потеряет остатки легитимности в глазах международного сообщества, и в случае любого неизбежного кризиса ему трудно будет на кого-то или на что-то надеяться. Россия не будет вмешиваться во внутренние дела Беларуси, пока там все проходит легитимным путем. Хотя уже сейчас вызывают непонимание, если не ярость, то аресты инакомыслящих, появление в Беларуси узников совести. Движение к референдуму, а затем к выборам неизбежно будет толкать руководителя страны и часть его окружения в сторону репрессивных мер, все больше дискредитируя это самое руководство.

Вряд ли европейские страны или Россия будут довольны появлением в центре Европы полноценной Северной Кореи.

Что же касается экономических успехов режима, то все прекрасно знают, что они — результат нефтяной конъюнктуры. Значительная часть переработки российской нефти находится на территории Беларуси. Насколько устойчивым является этот источник роста, можно только гадать.

Но самое главное — это то, что А.Г.Лукашенко, повторяю, ныне законно избранный президент Беларуси не будет таковым, потеряет свою легитимность при любом исходе следующих выборов, если он пойдет на них. И, соответственно, друзья, в том числе и в России, будут иметь гораздо меньше возможностей и никакого желания защищать его. Поскольку такая защита будет бросать тень и на них, будет выталкивать их из европейского контекста, из современной политической цивилизации. Я надеюсь, что продемонстрировавший не раз немалую политическую гибкость и политический талант нынешний белорусский президент не пойдет на третьи выборы. Даже если он выиграет референдум. Мы не заинтересованы в том, чтобы руководитель дружеской страны "топил" себя, обрекая частично вместе с собой братскую и дружественную нам Беларусь.

*("Российская газета".)*

# Декларация о единстве демократических сил Беларуси

*8 сентября 2004*

Соотечественники, граждане Беларуси!

7 сентября 2004 года Александр Лукашенко объявил референдум о продлении своих полномочий. Это заявление было сделано в день траура, когда еще не высохла кровь на руинах школы в Беслане, когда по всему миру проходили траурные митинги в память о безвинно погибших жертвах террора. Цинично используется момент, когда внимание белорусского народа и международного сообщества отвлечено от незаконности предлагаемой цели референдума и ее несоответствия демократическим международным нормам.

Цель Лукашенко — добиться права бесконечно избираться на пост президента. Для народа Беларуси это означает существование под пожизненной властью одного человека, который продемонстрировал свою неспособность управлять страной, использует ложь, административное давление и фальсификации для сохранения своей власти.

Дальнейшее нахождение Лукашенко у власти угрожает еще большим ухудшением жизненного уровня и полной международной изоляции нашей страны.

Мы, представители демократических сил Беларуси, заявляем о своем единстве и решимости совместно противостоять угрозе установления в Беларуси пожизненной и неограниченной власти одного человека.

Мы верим, что граждане Беларуси заслуживают того, чтобы жить, как другие народы Европы, в свободной, богатой стране, которую уважают в мире. Никто не может отобрать у нас право выбирать и менять руководство нашей страны. Чтобы сохранить это право, все должны быть равны перед законом, и никому нельзя позволять менять Конституцию и законы в угоду своим капризам.

Абсолютное большинство граждан Беларуси выступает против продления полномочий Лукашенко. И мы объединились для того, чтобы это большинство победило!

**Александр БУХВОСТОВ, председатель ликвидированной Белорусской партии труда;
Винцук ВЕЧЕРКО, председатель Партии БНФ;
Анатолий ЛЕБЕДЬКО, председатель Объединенной гражданской партии;
Алексей КОРОЛЬ, заместитель председателя партии Белорусская социал-демократическая Грамада;
Николай СТАТКЕВИЧ, председатель Белорусской социал-демократической партии (Народная Грамада);
Сергей КАЛЯКИН, первый секретарь ЦК Партии коммунистов Белорусской;
Валерий ФРОЛОВ, депутат группы "Республика" Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь;
Владимир КОЛАС, председатель Рады белорусской интеллигенции;
Андрей САННИКОВ, координатор Европейской коалиции "Свабодная Беларусь";
Рыгор БАРАДУЛИН, народный поэт Беларуси;
Нил ГИЛЕВИЧ, народный поэт Беларуси;
Юрий ХАЩЕВАТСКИЙ, кинорежиссер, лауреат премии имени Сахарова;
Зинаида БОНДАРЕНКО, народная артистка Беларуси;
Владимир ПАРФЕНОВИЧ, трехкратный олимпийский чемпион;
Станислав БОГДАНКЕВИЧ, профессор, почетный председатель Объединенной гражданской партии;
Павел КОЗЛОВСКИЙ, генерал-полковник, первый министр обороны Беларуси;
Гарри ПОГОНЯЙЛО, правозащитник;
Мечеслав ГРИБ, генерал милиции, председатель Верховного Совета Республики Беларусь 12-го созыва;
Василий СТАРОВОЙТОВ, дважды Герой Социалистического Труда;
Александр ДОБРОВОЛЬСКИЙ, заместитель председателя Объединенной гражданской партии;
Сергей АЛЬФЕР, юрист;
Людмила ГРЯЗНОВА, правозащитник;
Владимир ГОНЧАРИК, кандидат от демократических сил Беларуси на президентских выборах 2001 года;
Александр ФЕДУТА, политолог;
Валентина МАТУСЕВИЧ, руководитель женской партии "Надзея";
Александр МИЛИНКЕВИЧ, лидер региональных НЖО Гродненщины;
Виктор КОРНЕЕНКО, "Фонд содействия локальному развитию";
Геннадий АНАНЬЕВ, руководитель издательского дома "Время";
Юрий ХОДЫКО, профессор;
Татьяна ПРОТЬКО, руководитель БХК.**

**Декларация остается открытой для подписания всеми представителями демократической общественности Беларуси.**

**НУ И НУ!**

# В Минске хотят перечеркнуть память о Дмитрие Завадском

Ему бы жить да жить! Но, как ни печально, вот уже пятый год от него нет никакой весточки. К сожалению, множество материалов, которые стали доступны широкой общественности, свидетельствуют о самом ужасном — скорее всего нет в живых Дмитрия Завадского, который был оператором российского канала ОРТ и исчез по пути в Национальный аэропорт, куда он направлялся, чтобы встретить Павла Шеремета.

В памяти коллег Дмитрий останется навсегда молодым — ему было всего 28, когда некие дикари преградили ему путь. Вот уже пятый год его нет рядом с женой Светланой, сыном Юрием, матерью Ольгой Григорьевной. Нет его и среди коллег — тех, кто продолжает его дело, несет людям правду.

Позавчера руководитель спецпроекта ОРТ Павел Шеремет от имени телеканала вручил премии имени Дмитрия Завадского журналистам, работающим в жанре политической публицистики. Среди награжденных — обозреватель "Народной воли" Марина Коктыш, собственный корреспондент "Новой газеты" Ирина Халип, тележурналист Леонид Миндлин, информационное агентство БелаПАН. В этой необычной церемонии приняли участие мать и жена Дмитрия Завадского. Память об этом мужественном человеке, чувствуется, острой болью отзывается в сердцах его коллег. Как, впрочем, и всего белорусского народа.

Но кое-кому хотелось бы скорее предать забвению то, что произошло с Дмитрием Завадским, другими известными людьми, исчезнувшими тогда, когда их голоса очень нужны были для народа. Организатором церемонии вручения премии имени Д.Завадского пришлось преодолеть немало препонов, чтобы мероприятие все же состоялось. Обратились к администрации гостиничного комплекса "Планета" — отказ. Договорились с "Беларускай кухняй" в гостинице "Беларусь" — решение вдруг резко меняется: по техническим причинам спецмероприятие проводить нельзя. В срочном порядке пришлось искать другое место. Конечно же, нашли, но какой нервотрепки это стоило! Ну что можно сказать о тех, кто по сути поставил под угрозу срыва вечер памяти Дмитрия Завадского?!

Нет, не вытравить из душ белорусов то, что произошло в стране с Виктором Гончаром, Юрием Захаренко, Анатолием Красовским, Дмитрием Завадским, другими известными людьми. Их судьбы действительно волнуют белорусский народ.

**Степан КОРЖАНЕВСКИЙ.**

## На базе суперкамп'ютэра «Скіф»

У Рэспубліканскім навукова-практычным цэнтры "Кардыялогія" завершаны выпрабаванні кардыялагічнага комплексу на базе суперкамп'ютэра "СКІФ".

Беларускія медыкі распрацавалі методыку дыягностыкі сардэчна-сасудзістай сістэмы, што дазваляе зняць відэарад крывяносных капіляраў на сятчатцы вока. Пасля апрацоўкі выяў можна ацаніць звілістасць капіляраў, іх дыяметр, палічыць хуткасць крывятоку. Абагульненне статыстычных звестак дае поўную "карціну" стану сардэчна-сасудзістай сістэмы чалавека. З дапамогай такой вылічальнай устаноўкі, якая дазваляе праводзіць дыягностыку, можна абследаваць 6 — 7 пацыентаў у гадзіну.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Атруціліся грыбамі

**10 жыхароў Брэсцкай вобласці атруціліся грыбамі з пачатку восені.**

Так, напрыклад, рэанімацыйным аддзяленнем бальніцы завяршылася для 25-гадовага брэстаўчаніна паездка да сваякоў у вёску Руднікі Пружанскага раёна. Ужыўшы ў ежу вялікую колькасць умоўна ядомых грыбоў (паддубнікаў), малады чалавек у цяжкім стане быў дастаўлены вечарам у цэнтральную бальніцу Пружанаў.

Як паведаміла БелаПАН загадчыца аддзела гігіены харчавання Брэсцкага абласнога цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя Лідзія Ляхава, з пачатку года ў вобласці зарэгістравана ўжо 22 выпадкі атручэння грыбамі з 25 пацярпелымі. Сярод пацярпелых — двое дзяцей; адзін чалавек памёр.

Як зазначыла Л.Ляхава, грыб свінуха тонкая — або, як яго называюць у народзе, паддубнік, альхоўка, кабылка — больш за дзесяць гадоў таму лічыўся ядомым, але з таго часу як у ім знойдзены атрутныя рэчывы, ён выключаны з ліку дазволеных для выкарыстання ў ежу.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

**МНЕНИЕ ЮРИСТА**

*Александр ПЛАСКОВИЦКИЙ:*

# «Лукашенко мастерски спрятал то, о чем на самом деле спрашивает...»

Как известно, вопрос, который Лукашенко вынес на референдум, звучит так: *"Разрешаете ли вы первому Президенту Республики Беларусь Александру Григорьевичу Лукашенко участвовать в качестве кандидата в президенты Республики Беларусь в выборах президента и принимаете ли часть первую статьи 81 Конституции Республики Беларусь в следующей редакции: "Президент избирается на пять лет непосредственно народом Республики Беларусь на основе всеобщего, свободного, равного и прямого избирательного права при тайном голосовании".*

Уже подписан указ главы государства и известно, что референдум состоится 17 октября, в день выборов в Палату представителей Национального собрания. На самом ли деле указ подписан в соответствии с Конституцией? И насколько корректно сформулирован вопрос, который выносится на референдум? Ведь по сути он включает в себя два вопроса.

**Александр ПЛАСКОВИЦКИЙ,** три года проработавший начальником главного государственного правового управления Администрации президента считает, что Лукашенко *"мастерски спрятал то, о чем он на самом деле спрашивает".*

— В статье 81 Конституции есть вторая, маленькая часть: "...одно и то же лицо может быть президентом не более двух сроков подряд", — говорит Александр Пласковицкий. — И с точки зрения юридической техники, надо было спрашивать: Согласны ли вы исключить эти слова из статьи? А Лукашенко взял и совместил два вопроса. И, например, я затрудняюсь ответить на вопрос, который предлагается.

Я бы, например, на первый вопрос ответил однозначно "нет", потому что наш лидер все меньше и меньше мне нравится. А на второй — однозначно "да". Потому что считаю, что для того чтобы дожить до такого демократического ограничения как два или три президентских срока, Беларуси надо пережить еще много трудных лет. Рановато еще ограничивать.

И второй очень тонкий момент. Фактически Лукашенко хочет изменить Конституцию, а не просто посоветоваться с народом, идти ли ему на третий срок. Значит, это будет конституционный референдум, а не какой-либо другой. Чтобы изменить Конституцию, надо чтобы проголосовало "за" более 50% от всех избирателей страны. А для того чтобы разрешить на референдуме все, что угодно (т.е. вынести вопрос, который не касается изменений в Конституции), достаточно простого большинства, пришедшего на выборы. Получается, что если на референдуме Лукашенко и не соберет конституционного большинства, необходимого для того, чтобы изменить Конституцию, то он может сказать, что у него есть простое большинство, которое ему разрешило идти на выборы вопреки Конституции. И уже будет виноват не он, а как бы народ, который разрешил.

**— Александр Леонидович, юристы спорят, насколько вообще законно проведение референдума. Есть мнение, что фактически белорусское законодательство запрещает выносить на референдум вопросы, связанные с избранием и освобождением президента. А какого мнения придерживаетесь Вы?**

— Я думаю, что эти юристы имеют все основания так говорить. Другое дело, что сама формулировка Избирательного кодекса, на которую они ссылаются, такая плохая, что трудно сказать, однозначно ли она запрещает ставить вопрос на референдум именно так, как его сформулировал Лукашенко в своем указе.

**— К слову, некоторые политики охарактеризовали формулировку вопроса, вынесенного на референдум, как "политическое шулерство"...**

— Это для кого как...

**Мария ЭЙСМОНТ.**

## Лідэр АГП звярнуўся ў пракуратуру з патрабаваннем устанавіць асобы людзей, якія яго праследавалі

Вечарам 7 верасня старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька звярнуўся ў пракуратуру Цэнтральнага раёна горада Мінска. Ён патрабуе ўстанавіць асобы людзей, якія праследавалі яго 7 верасня, і прыцягнуць іх да крымінальнай адказнасці.

Паводле слоў А.Лябедзькі, 7 верасня, прыкладна ў 17.20, ад'язджаючы на аўтамабілі ад дома па вуліцы Шчадрына, 28-2, ён заўважыў, што за ім пастаянна рухаецца "Волга" светла-шэрага колеру. Гэта падалося Лябедзьку падазроным. Вырашыўшы праверыць, ці не вядзецца за ім вонкавае назіранне, палітык павярнуў з вуліцы Шчадрына налева і заехаў у двор школы № 104. "Волга" павярнула ўслед і спынілася ля варот, перакрыўшы выезд машыне А.Лябедзькі.

Палітык развярнуўся, пад'ехаў да "Волгі" і некалькі разоў прасігналіў, даючы зразумець, што неабходна выслабаніць праезд, аднак вадзіцель "Волгі" не прарэагаваў. Выйшаўшы з аўтамабіля, А.Лябедзька падышоў да машыны і заўважыў у салоне "Волгі" з таніраваным шклом двух чалавек: адзін сядзеў за рулём, другі — на заднім сядзенні. А.Лябедзька папрасіў іх выслабаніць праезд, але людзі ў машыне зноў ніяк на яго просьбу не адрэагавалі.

Палітык паспрабаваў пакінуць двор праз іншыя вароты, але адчыніць іх яму не ўдалося. Лябедзька вымушаны быў вярнуцца да "Волгі", ён патрабаваў прапусціць яго ці патлумачыць аб тым, што адбываецца. Аднак аўтамабіль працягваў заставацца на месцы, прычым з яго ніхто не выходзіў.

Аб'ехаўшы пустынны двор школы яшчэ раз, Лябедзька заўважыў трэція вароты — яны былі размешчаны па-за зонай бачнасці людзей, якія знаходзіліся ў "Волзе". Палітык разматаў дрот на варотах і змог выехаць з двара.

АГП расцэньвае тое, што здарылася, як спробу невядомых асоб учыніць злачынства ў дачыненні да яе лідэра. Апрача патрабавання ўстанавіць асобы праследавацеляў, А.Лябедзька патрабуе ад пракуратуры праінфармаваць яго ва ўстаноўленыя законам тэрміны аб прынятых мерах.

**Марат ГАРАВЫ.**

ПУЛЬС

## У сувязі з трагічнымі падзеямі ў Бяслане свята горада ў Мінску пройдзе з меншым размахам

Запланаванае на 11—12 верасня ў Мінску свята горада пройдзе "з меншым размахам", чым планавалася. Пра гэта паведаміў першы намеснік старшыні Мінскага гарвыканкама Мікалай Ярохаў падчас "круглага стала" "Эканамічныя сувязі паміж Мінскам і рэгіёнамі Расійскай Федэрацыі", які прайшоў у гарвыканкаме ў рамках двухдзённага семінара для расійскіх журналістаў па актуальных пытаннях інтэграцыі.

"Мы адмыслова не змянялі праграму святочных мерапрыемстваў, усё ж жалоба да гэтага часу пройдзе і свята мае адбыцца, але яно будзе не такім вялікім, як планавалася", — адзначыў М.Ярохаў.

**Лавінія АРЭШКА.**

## Віч-пазітыўных больш за шэсць тысяч

Паводле апошніх звестак, у Беларусі афіцыйна зарэгістравана 6014 ВІЧ-пазітыўных, пры гэтым 529 выяўлена з пачатку гэтага года. Па колькасці заражаных вірусам імунадэфіцыту па-ранейшаму лідзіруе Гомельская вобласць, дзе зарэгістравана 3 тысячы 485 выпадкаў, і Мінск — 864 выпадкі.

Пераважная большасць інфіцыраваных — маладыя людзі ва ўзросце 15 — 29 гадоў (79,5 працэнта ад агульнай колькасці хворых).

**Вольга АСІПЕНКА.**

## У міратворчых вучэннях НАТО

У міратворчых вучэннях НАТО "Cooperative Best Effort — 2004", якія пачнуцца на тэрыторыі Азербайджана 13 верасня, возьме ўдзел мотастралковае аддзяленне 120-й гвардзейскай асобнай механізаванай брыгады (амбр) Узброеных сіл Беларусі, якое складаецца з 12 чалавек. Пра гэта БелаПАН паведаміў намеснік начальніка Генеральнага штаба УС — начальнік аператыўнага ўпраўлення генерал-маёр Пётр Ціханоўскі.

Нагадаем, што сёлета ўпершыню прадстаўнікі Узброеных сіл Беларусі возьмуць удзел у палявых вучэннях краін — членаў НАТО і краін — партнёраў у рамках Праграмы "Партнёрства дзеля міру" ў якасці іх непасрэдных удзельнікаў. Падчас вучэнняў "Cooperative Best Effort — 2004" будуць адпрацаваны навыкі практычнага вырашэння праблем пры выкананні міратворчых аперацый. У ім чакаецца ўдзел больш як адной тысячы вайскоўцаў краін НАТО і партнёраў блока.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Быў першым з першых

У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адбылася вечарына "Быў першым з першых", прысвечаная 130-годдзю з дня нараджэння вядомага дзеяча беларускага нацыянальна-вызвольнага руху Аляксандра Уласава (1874 — 1941).

З'яўляючыся адным з арганізатараў Беларускай сацыялістычнай грамады, А.Уласаў з 21 снежня 1906 па 7 сакавіка 1914 года быў рэдактарам-выдаўцом газеты "Наша Ніва", рэдактарам часопісаў "Саха" і "Лучынка", членам Віленскага выдавецкага таварыства "Наша хата". З ягоным актыўным удзелам рэдакцыя "Нашай Нівы" ажыццявіла выданне беларускіх календароў, зборнікаў газеты, твораў Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча і Цёткі.

А.Уласаў у 1939 годзе быў арыштаваны супрацоўнікамі НКУС і памёр у зняволенні па дарозе ў Новасібірск.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Новае рэчыцкае піва

Запускам новай лініі бутэлечнага разліву піва завяршыўся асноўны этап рэканструкцыі сумеснага беларуска-літоўскага прадпрыемства "Рэчыцапіва".

Па вытворчай магутнасці — больш за 4 млн. дэкалітраў у год — ААТ "Рэчыцапіва" займае другое месца сярод півазаводаў Беларусі, падкрэсліў намеснік старшыні Гомельскага аблвыканкама Аляксандр Казачок на прэс-канферэнцыі, што прайшла адразу пасля запуску новай вытворчай лініі. Паводле яго слоў, 80 працэнтаў прадукцыі прадпрыемства спажываецца ў вобласці, яшчэ 16 працэнтаў ідзе ў гандлёвую сетку іншых рэгіёнаў краіны. Астатнія 4 працэнты вывозяцца за межы Беларусі.

14 верасня ў гандлёвую сетку Беларусі паступіць новы гатунак піва — "Рэчыцкае Лебенбір", светлае піва класа прэміум. Рэцэптура і тэхналогія яго варкі распрацаваны з удзелам нямецкіх півавараў. Састаў уключае толькі ваду, светлы солад і хмель.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

ЖИЗНЬ КАК ОНА ЕСТЬ

# Не ожидали?



*Он и за решеткой был Великим Человеком.*

Раздались аплодисменты... Рукоплескали стоя! Кое-кому не хотелось вставать, кто-то просто боялся вставать, но... Но еще страшнее было выбиться из общей атмосферы единодушного одобрения и уважения. Вот и стояли и все вместе аплодировали.

А было это 31 июля текущего года. В этот день исполнилось 60 лет со дня создания того, что было названо колхозом "Рассвет", превратившегося потом в ОАО с одноименным названием. При прежнем руководстве юбилеи этого хозяйства не отмечали, считая, что достижения и заслуги лучше выражать делами и успехами. А их было более чем достаточно. Не случайно же государство проявляло щедрость в награждении руководителей и работников этого известного всему Союзу хозяйства. Так зачем же тратиться на бесполезно-показушные мероприятия?

"Рассвет" разгорался все ярче и ярче, доходы и заработки людей становились все более весомыми. Плюс множество социальных дополнений (собственные санатории, бесплатное питание работников и школьников, бесплатные детские садики, тринадцатая зарплата и т.д.). Но не всем это нравилось: слишком уж "общипанными" выглядели многие хозяйства и их руководители на фоне яркого "Рассвета". И злоба у таких "плетущихся в хвосте" копилась. Увы, как говорится, "видит око, да зуб неймёт". Не по зубам был мощный фундамент "Рассвета". Но вот появились и зубы. Чтобы они окрепли, понадобилось еще четыре года. Долго копившиеся злоба и зависть с уже окрепшими клыками толкнули на "хищный бросок". И вот "жертва" в клетке (не в переносном, а в самом прямом смысле). Начался немыслимый, бесчеловечный и многолетний кошмар государственной инквизиции.

А тут вот — та же "жертва", но уже не в клетке, а на трибуне. И овации всего зала, как в те не очень далекие советские времена. Но давайте все по порядку.

После того "хищного броска" яркий "Рассвет" быстро поблек, уверенная поступь сбилась на шаркающую, болезненную походку. Даже подпорки понадобились в виде весьма приличных государственных дотаций (а раньше обходились без них). Но и они не спасали от активного скатывания вниз. Какой уж тут рассвет, скорее на закат похоже. Короче, нечем было похвастаться. А так хотелось всем-всем показать: все в порядке, идем в гору. Показать делом не удалось. Нужен "фейерверк" в виде торжественного празднования подвернувшегося под руку юбилея. Тем более что уже есть опыт пышных (и очень дорогих!) празднеств такой не очень круглой даты, как 60-летие.

И началась подготовка. Даже посланцев снарядили к тому, кого не так давно кое-кто предпочитал видеть в клетке: "Не будете ли Вы столь любезны посетить наше празднество?" Похоже, очень обрадованы были, получив категорический отказ. Думаю, что на это они и рассчитывали. Подготовка шла полным ходом, ведь у показухи тоже есть свои законы. Даже предписано было, чтобы в зале не оставалось ни одного свободного места. Иначе не посчастливится тому, кто именно за этот ряд отвечает.

И вдруг!.. В самый последний момент бывший "заключенный" передумал. "Чего это я буду прятаться от людей, с которыми проработал 30 лет?" И отправился в торжественный зал. В парадной форме с золотыми звездами Героя и с колодками многочисленных боевых и трудовых орденов и медалей. Появление Василия Константиновича Старовойтова оказалось для организаторов юбилейного шоу полнейшей неожиданностью. Председатель Кировского райисполкома (где судили арестованного дважды Героя) растерянно развел руками: "Рад вас видеть!" "А это правда?" — парировал с саркастической улыбкой Василий Константинович. Место ему быстренько нашли, "самое удобное": прямо перед ним оказалась судья — небезызвестная госпожа Чмара, еще не так давно судившая 74-летнего Старавойтова. Об этих "делах" я знаю не понаслышке, свидетелем "деяний" этой госпожи довелось быть и мне.

Открывая торжественное заседание, председательствующий сообщил, что в зале находится многолетний председатель "Рассвета", и предложил предоставить ему слово.

Василий Константинович направляется к трибуне под аккомпанемент аплодисментов присутствующих в зале. И вот — тишина. Одни с боязнью ожидают того, что может выдать им этот человек, привыкший откровенно и жестко называть вещи своими именами. Другие — с радостным ожиданием и восторгом от встречи с дорогим для них человеком. Тем более что после его "ухода" они, извините за выражение, на своей шкуре успели ощутить тяжесть этой потери. Бодрый, как и в былые времена, голос: "Половину из 60-летней истории "Рассвета" мне довелось быть его председателем. Много событий прошло за эти годы. У кого-то остались обиды на меня, на кого-то и у меня остались обиды. Простите меня, если я кого-то обидел, а я прощаю тех, на кого был обижен сам".

Зал взорвался аплодисментами, и люди встали! Это было проявление искреннего единения тех, кто 30 лет шел бок о бок к тем вершинам, на которые общими силами был поднят их родной "Рассвет"! Стоя аплодировали даже те, кто не хотел бы этого делать или трусливо опасался за последствия для себя. Вынуждены были аплодировать и те, кто загонял этого **достойнейшего Человека** в клетку, кто многие годы измывался и еще продолжает измываться над ним. Аплодировали и те, кто успел приложить руку к развалу многого из того, что было достигнуто при огромных усилиях Василия Константиновича. Они не могли не аплодировать Человеку, отстоявшему право на всеобщее уважение. И Он не опустился до сведения счетов, до выражения претензий и обид (вполне обоснованных!).

Такого оборота не ожидали организаторы торжественно-показушного шоу. Они явно не были готовы к столь искреннему проявлению признательности, уважения и благодарности людей к Человеку, сделавшему так много для процветания их "Рассвета", для улучшения жизни каждого человека в нем. Но не стоит жалеть тех, кто давал команду на этот "хищный бросок", кто угодливо реализовывал эту бесчеловечную акцию, не считаясь с тем, какой вред принесла она людям.

Будущее нашей Беларуси не за теми "командующими" и не за теми "угодниками". Наше Будущее за такими людьми, как Василий Константинович Старовойтов! Еще много имен столь же достойных людей можно было бы назвать. Но пока существуют клетки для лучших людей нашей страны, пока в любой момент может прозвучать команда "фас!", не стоит рисковать их жизнями и здоровьем.

Они еще послужат нашей стране! И все мы должны послужить! Закат не может длиться долго. Не за горами и Рассвет в жизни Беларуси! Мы верим в это!

**Георгий ЛЕПИН, профессор.**
**Фото photo.bymedia.net**

РЭГІЁН

## «Міжнародная» беларусачка

На колькіх мовах ты размаўляеш, столькі разоў ты чалавек.

Калі пагадзіцца з гэтым слынным афарызмам, то беларуская дзяўчына Каця Палівода з гарадскога пасёлка Барань Аршанскага раёна мае права звацца чалавекам як мінімум пяць разоў.

Сёння Каця жыве ў Празе, працягвае сваю адукацыю ў знакамітым на ўвесь свет Карлавым універсітэце.

А дасягнула ўсяго гэтага наша беларусачка сама, без усялякай пратэкцыі.

Настаўнікі бараньскай сярэдняй школы №8 даўно прыкмецілі выдатныя здольнасці Каці да замежных моў і параілі дзяўчынцы пайсці вучыцца ў Мінскі лінгвістычны каледж, дзе Каця Палівода таксама паказала сябе з найлепшага боку. Кіраўніцтва каледжа паслала Кацю ў Прагу, на курсы чэшскай мовы.

З бляскам закончыўшы курсы, Каця паспяхова, нароўні з карэннымі чэхамі, здала ўступныя экзамены на філалагічным факультэце Карлава ўніверсітэта, дзе вывучае цяпер адразу тры мовы — англійскую, чэшскую і рускую. Пры гэтым наша зямлячка прызнаецца, што ў асваенні чэшскай мовай ёй вельмі спрыяе веданне сваёй роднай, беларускай, мовы, якую Каця Палівода не забыла.

## Затрымана левае паліва

Некалькі мінскіх фірмаў не дачакаліся груза з Расіі, які дастаўляўся праз Аршанскі раён.

На мяжы дзвюх "саюзных" краін, ля вёскі Арэшкі, супрацоўнікі ўпраўлення ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкама затрымалі чатыры грузавікі, якія перавозілі 140 тон паліва. Як хутка выявілася, аўтацягнік рухаўся абходным шляхам, абмінаючы мытныя пасты і кантрольныя пункты прадпрыемства "Белдарцэнір".

Такая асцярожнасць была праяўлена невыпадкова. Кантрольнае ўзважванне паказала, што вага грузу перавышала лічбу, заяўленую ў суправаджальных дакументах.

На чатырох вадзіцеляў складзены адміністрацыйныя пратаколы, "дальнебойшчыкі" аштрафаваны на 2,3 тысячы долараў. Далейшы лёс затрыманага паліва мусіць вырашыць Гаспадарчы суд.

## На Віцебшчыне ўспамінаюць французскіх лётчыкаў

На ваенным мемарыяле ў пасёлку Копці Віцебскага раёна ўрачыста адкрыты помнік у гонар французскіх пілотаў са знакамітага авіяпалка "Нармандыя—Нёман", якія загінулі пры вызваленні Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

На стэле, упрыгожанай дзяржаўнай сімволікай Францыі і Беларусі, выбіты імёны чатырох французаў, якія аддалі свае жыцці ў змаганні з фашызмам.

Месца для помніка вызначана невыпадкова. Аэрадром, адкуль у неба ўздымаліся французы, размяшчаўся зусім блізка ад Копцяў, каля вёскі Дуброўка.

Са сведкаў і ўдзельнікаў тых гераічных падзей на ўрачыстасць змог прыехаць толькі Васіль Звераў, былы камандзір эскадрыллі суседняга з "Нармандыяй" гвардзейскага авіяпалка. Менавіта Звераву як інструктару даводзілася вучыць маладых французаў пілатаванню савецкіх самалётаў.

"За два гады баёў, — нагадаў В.Звераў, — французскія лётчыкі збілі 273 нямецкіх самалёты і страцілі 46 сваіх таварышаў-землякоў.

Назву "Нармандыя" полк узяў у гонар французскай правінцыі, найбольш пацярпеўшай ад гітлераўцаў, а ганаровы тытул "Нёманскі" атрымаў за баявыя заслугі ў Беларусі.

Замежнікі біліся з нашым агульным ворагам дастойна. Кожны з іх мог паўтарыць словы свайго сябра, Героя Савецкага Саюза Марселя Лефеўра: "Мы пакінулі сваю зганьбаваную радзіму, каб вярнуцца пераможцамі".

## Такія шчаслівыя Пацыенкі

Весела, узнёсла адзначылі пятую гадавіну сваіх дачушак-трайнятак Ірына і Барыс Пацыенкі з вёскі Перамонт Лёзненскага раёна.

Разам з маці і бацькам у "трайным" юбілеі ўдзельнічалі не толькі ўся сям'я, дзе з нараджэннем у 1999 годзе Сашы, Машы і Наташы стала восем чалавек, але і, так бы мовіць, мясцовая грамадскасць, якая не нарадуецца на дарослых і малых Пацыенкаў.

Старшыня Дабрамысленскага сельсавета Надзея Папялкоўская з вялікай павагай гаворыць пра вялікую сям'ю. Бацька шасцярых дзяцей Барыс працуе механізатарам, а Ірына, як і раней, выконвае пачэсныя абавязкі маці і хатняй гаспадыні.

Саша, Маша і Наташа выхоўваюцца ў мясцовым дзіцячым садку, а ў астатні час яны пад доглядам старэйшых сястрычак-двайнятак Любы і Жэні і брата-падлетка Валянціна, які неўзабаве скончыць ПТВ і стане, па прыкладзе бацькі, механізатарам.

Ірына Пацыенка — жанчына з моцным пачуццём годнасці. Яна ніколі не скардзіцца на цяжкасці, нічога не просіць у мясцовай улады і нават адмаўляецца ад гуманітарнай дапамогі.

Муж і жонка Пацыенкі з калыскі загартоўвалі сваіх дзетак, і таму, дзякуй бацькам і Богу, ні ў кога з шасцярых, уключаючы трайнятак, не было і няма праблем са здароўем.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

# Неба аднолькавае — і над Мінскам, і над Туравам

*Уражанні ад свята беларускага пісьменства*

З Гомеля ў Тураў шлях няблізкі. А паколькі гэты абласны цэнтр і гэты горад раённага падпарадкавання не звязаныя працоўнай міграцыяй (калі б туравец з раніцы ездзіў на гомельскі завод, а ўвечары вяртаўся ў родную хату), дык і надзейнай транспартнай камунікацыі паміж імі няма. Як з камфортам прывезці гасцей свята ў Тураў, а пасля вярнуць у Гомель (а каго і ў Мінск) — гэта праблема ад пачатку стаяла перад арганізатармі даволі востра. Меў такі ж клопат адносна сваёй асобы і я, бо прыехаў, не маючы афіцыйнай акрэдытацыі і, адпаведна, быў пазбаўлены магчымасці перакласці ўласныя праблемы на плечы роднай дзяржавы. У гэтай сітуацыі мне дапамагла журналісцкая салідарнасць. Калегі з дзяржаўных СМІ прадставілі мяне распараджальніку па транспарце, а той знайшоў мне месца у аўтобусе прэсы. А шостай гадзіны раніцы ля будынка гомельскага аблвыканкама нас ужо чакалі некалькі камфартабельных аўтобусаў накшталт тых, якія скарыстоўваюцца на маршрутах "дальнего следования".

Журналістаў размясцілі у аўтобусе жоўтага колеру. Можа, выпадкова, а можа, намякаючы на спецыфіку прафесійнай дзейнасці. Прадстаўнік улады, які курыраваў прэсу і суправаджаў журналістаў да Турава, называў нас то "господами", то "товарищами", гаварыў увогуле па-руску, але раз-пораз скарыстоўваў беларускія словы. І нават у гэтых дробязях адчувалася спецыфіка гістарычнага моманту, — калі ўжо не камунізм, але яшчэ і не свабоднае грамадства; ужо не БССР, але і да сапраўднага суверэнітэту — як пехатою ад Мінска да Турава.

На ўездзе ў Тураў аўтобус спыніўся ля царквы, каб выпусціць здымачную групу Беларускага тэлебачання. Ім трэба было зняць святочную літургію ў гонар Усіх Святых і закладку Сада Малітвы. Наш суправаджаючы прапанаваў цікаўным далучыцца да журналістаў БТ, але папярэдзіў, што адсюль даволі далёка да Замкавай гары, дзе запланаваная асноўная імпрэза. Можа, каго і хвалявала святочная літургія, але перспектыва ісці потым пехатою па спякоце ды яшчэ невядома куды (усе ў Тураве ўпершыню), ды яшчэ на хворую галаву пасля "ўчарашняга", нікога не натхніла. Спыніўся аўтобус пад самай Замкавай гарой. Гэта мяжа мястэчка. На гары — помнік Кірыле Тураўскаму. Далей — нязвыклая для вока месціча "аўтэнтычная" прырода.

Да свята Тураў прыбралі, пафарбавалі, сям-там паклалі асфальт і тратуарную плітку; уздоўж вуліц, дзе, чакалася, будуць шпацыраваць госці, паставілі новыя аднаго малюнку парканы. На галоўнай і, мабыць, адзінай плошчы мястэчка разгарнулі выставу беларускай прэсы. Газеты раздавалі бясплатна. Цвіком "Фестывалю СМІ" была газета "Культура". Нумар, прысвечаны Святу беларускага пісьменства, выйшаў на 24 палосах замест звычайных 16, на мелаванай паперы, цалкам каляровы. 1000 асобнікаў, якія галоўны рэдактар Людміла Крушынская прывезла на свята, тураўцы, госці і, галоўнае, самі прадстаўнікі шматаблічнага корпусу СМІ вокамгненна расцягалі на сувеніры. Між тым як іншым давялося частку свайго "тавару" (каму і немалую частку) везці назад.

На Замкавай гары паставілі "Кніжны павільён", дзе той, каму гэта цікава, мог азнаёміцца з навінкамі беларускіх выдавецтваў. Тут жа абсталявалі сцэну і "глядзельную залу", пабудавалі свайго роду "горад майстроў", дзе можна было пабачыць і набыць сувеніры і побытавыя рэчы, зробленыя згодна з народнай традыцыямі. Мясцовы краязнаўчы музей зрабіў выставу проста пад адкрытым небам — археалагічныя знаходкі, макет Тураўскага гарадзішча, старадрукі... Тэатралізаваная імпрэза глядзелася як ілюстрацыя да тэзы "Мастацтва належыць народу", цалкам адпавядала стэрэатыпам правільнага дзяржаўнага свята. На галоўнай сцэне панаваў беларускі фальклор, на перыферыйнай (ля мясцовага Савета) — расійская папса. А яшчэ па мястэчку боўталіся, не ведаючы куды падзецца ды чым заняцца, удзельнікі мастацкай самадзейнасці, якія ўжо адпрацавалі свае нумары, і сябры рыцарскіх клубаў, якія ў кальчугах і шаломах мужна трывалі не восеньскую спякоту. Тутэйшыя людзі да гэтай экзотыкі ставіліся даволі абыякава. Мне падалося, што, каб зараз сюды прыехалі немцы на танках, на іх бы таксама ніхто не звярнуў бы ўвагі.

У Тураве на свяце было шмат міліцыі. Замежных гасцей, прадстаўнікоў дыпламатычнага корпусу трымалі асобнай купай, не даючы зліцца з народам. Прафесар Беларускай акадэміі мастацтваў Павел Семчанка, які прыязджае на ўсе святы беларускага пісьменства нібыта на працу ходзіць, паспрабаваў павітацца з амбасадарам Індыі, якога ён асабіста ведае. Міліцыя не пусціла, ці то палічыўшы прафесара за тэрарыста, ці то каб проста лішняга клопату не мець. Яшчэ міліцыянты вельмі нерваваліся, калі бачылі наведзены на іх аб'ектыў фотаапарата, і прасілі іх не здымаць.

Мясцовы гандаль гэтым днём, мабыць, выканаў месячны план і чэсна заслужыў прэміяльныя. Вельмі разнастайны выбар страў і напояў. Але п'яных не было. У натоўпе, які на вока складаў ад трох да пяці тысяч чалавек, я заўважыў толькі двух-трох грамадзян не тое каб п'яных, але нападпітку. Так што "камсамольцы" з БРСМ, якія на свяце агітавалі за здаровы лад жыцця, адчувалі сябе дурнямі, якія ломяцца ў адчыненыя дзверы: тураўскі народ і без іхняе парады ведае сваю "норму".

Паколькі ў кожным асяродку чалавек падсвядома шукае "сваіх", я быў вельмі задаволены, сустрэўшы ў Тураве добрага знаёмца, які зараз працуе ў мінскай рэдакцыі адной з маскоўскіх газет, робіць яе "беларускія" старонкі. Ён меў папярэднюю дамоўленасць аб інтэрв'ю з выкладчыкам беларускай мовы мясцовай школы, а мне прапанаваў пры гэтым прысутнічаць. Не стану падрабязна пераказваць тое, што чуў (бо гэта не мой "эксклюзіў"), але адзін момант усё ж згадаю. Выкладчык нашай мовы, добра памятаючы, што ён дзяржаўны служачы, гаварыў аб праблемах канкрэтнай школы і ўвогуле сістэмы адукацыі вельмі абачліва, асцярожна. Але і ён не здолеў стрымаць абурэння, прыгадаўшы, што беларускімі ў школах засталіся толькі шыльды на ўваходзе, што сёння ў навучальных планах беларускай мове адведзена гадзін меней, чым рускай і ангельскай. Што ж датычыць свята, дык гэта, на ягоную думку, рэч добрая. Ад яго школа наўпрост мае карысць. Нарэшце адрамантавалі дах, які працякаў; паставілі новыя вокны — старыя спарахнелі, з іх вывальвалася шкло; давялі да ладу ацяпленне — зімой у класах быў такі холад, што бацькі, дбаючы пра здароўе сваіх дзяцей, не пускалі іх у школу.

Вядома, прыстойная дзяржава павінна мець сродкі і на штодзённы клопат аб духоўным стане нацыі, і на святы, якія нацыю яднаюць. Свята беларускага пісьменства якраз з гэтага шэрагу. Зрэшты, добра, што яго ладзяць у невялікіх гарадах, мястэчках. Дзякуючы гэтаму святу людзі беларускай правінцыі могуць пазбавіцца комплексу другараднасці, забыць пра мяжу, якая аддзяляе урбаністычныя цэнтры ад нярэдка забытай богам і ўладаю вясковай і мястэчковай перыферыі. Людзі беларускай правінцыі ў дні такіх святаў адчуваюць на сябе ўвагу ўсёй краіны, павагу, якае сілкуе іхняе пачуццё ўласнай годнасці. Хай Тураў, Камянец, Мсціслаў, Орша прызвычайваюцца да думкі, што феерверк у начным небе — гэта не прэрагатыва сталіцы. Неба аднолькавае — і над Мінскам, і над Туравам. Незалежна ад гледзішча: што з высокага пагорка, што з акна жоўтага аўтобуса.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**




*Супрацоўнік сапёрнага падраздзялення МУС аглядае пакінуты невядомымі побач з дарогай пакет, унутры якога аказалася жоўтае лісце. Мінск, вул.Я.Коласа, 8 верасня 2004 года.*

**Фото photo.bymedia.net**

## Выключылі з Акадэміі міліцыі ці пакінуў па ўласным жаданні?

*Паводле слоў актывіста незарэгістраванага "Маладога фронту" Сяржука Савіча, яму паведамілі, што навучанне ў міліцэйскай установе з палітыкай несумяшчальнае.*

Сяржук Савіч упершыню "засвяціўся" перад кіраўніцтвам Акадэміі міліцыі, калі быў затрыманы падчас акцыі пратэсту супраць знаходжання пад Ганцавічамі расійскай вайсковай радыёлакацыйнай станцыі. Акрамя актыўнага ўдзелу ў палітычным жыцці "Маладога фронту", Савіч таксама збіраўся вылучацца ў Жодзінскі гарсавет, у які ў кастрычніку пройдуць давыбары. Акрамя таго, Сяржук Савіч удзельнічае ў перадвыбарнай кампаніі прэтэндэнта ў кандыдаты Палаты прадстаўнікоў ад Жодзіна Паўла Красоўскага.

Усё гэта, мабыць, не зусім спадабалася кіраўніцтву Акадэміі міліцыі, у якой Савіч вучыўся на трэцім курсе факультэта права. Паводле слоў маладога палітыка, некалькі дзён таму яго выклікаў начальнік акадэміі і сказаў, што тым, хто займаецца палітыкай, у такой установе не месца. І што з такімі міліцыя, наадварот, павінна змагацца.

На факультэце права Акадэміі міліцыі МУС нам сказалі, што Сяржук Савіч сышоў з навучальнай установы па ўласным жаданні.

**Міраслава МІРАНОВІЧ.**

ХОЧУ СПРОСИТЬ

## И отчего это все уменьшается?

Ну, конечно, не все абсолютно, — цены, например, растут и растут. Статистические сводки вещают об увеличении производственных показателей. А вот рядовой обыватель в повседневной жизни нередко сталкивается как раз с той, "уменьшительной", стороной реального бытия.

Уже не сегодня заметил: уменьшаются в весе буханки хлеба, батоны, булочки, а пакеты с молочными продуктами заполняются не на полную, обозначенную меру, коробки спичек — тоже самое. А ведь, вероятно, не тетки какие-то над ними в заводском цеху химичат — автоматы. Так надо их наладить, если они годами "хулиганят".

Даже лекарства — например, таблетки "БисаКодила", которые я принимаю, "ужались" вдвое по сравнению с прежними, хорошо мне известными. Это что, такая "экономия"?

Примеры можно приводить и дальше, но не это главное. А то, что не нахожу ответа на вопрос: отчего так происходит? Может, оттого, что уменьшается и уменьшается ответственность тех, кто должен обеспечивать настоящий, а не показной порядок на производстве, реально заботиться о людях, а не только возвещать на словах об этой заботе?

**Яков ЛИФАНОВ, ветеран труда.**

*Минск.*

